НОВЫЯ ІМЁНЫ




*Аляксандра РАМАНОЎСКАЯ:*

# "Бацькі нават не ведалі, што такое фрыстайл"

*18-гадовая беларуская фрыстайлістка **Аляксандра РАМАНОЎСКАЯ**, якая днямі сенсацыйна перамагла на этапе Кубка свету ў Лэйк-Плэсідзе, распавяла "Народнай Волі" пра свае дасягненні і захапленні.*

...У жыцці Саша зусім іншая, чым па тэлевізары. Яна нагадвае мне школьніцу з заплечнікам, якая толькі што прыйшла з заняткаў. Сціплая, інтэлігентная, жыццярадасная.

– Мяне яшчэ маленькай, у восем гадоў, бацькі прывялі ў сталічную спартыўную школу на праспекце Пераможцаў, – распавядае чэмпіёнка. – Так бы мовіць, каб знайсці выхад маёй энергіі.

**– Бацькі – не спартсмены?**

– Непрафесійна займаліся спортам у маладосці. Тата – спартыўнай гімнастыкай, мама ў горы хадзіла. Вось удвух і прынялі рашэнне аддаць мяне ў спорт.

**– Чаму ў фрыстайл?**

– Шчыра кажучы, канкрэтны від спорту нават не разглядаўся. У спартыўнай школе шмат розных секцый (акрабатыка, батут), таму прывялі, аддалі, а далей ужо абставіны склаліся так, што мяне прывялі да трэнера па фрыстайле. Я была не супраць.

**– А тата і мама? Усё ж такі фрыстайл – даволі небяспечны від спорту...**

– Яны спачатку наогул не ведалі, што гэта такое. Займаюся спортам – і займаюся. Затым, калі ўжо даведаліся, то дазволілі.

**– Спорт вучобе ў школе не перашкаджаў?**

– У гімназіі было цяжкавата, але затым, калі перайшла ў Вучылішча алімпійскага рэзерву, праблем з гэтым не было.

**– Колькі ў дзень часу ідзе на спорт?**

– Дзве трэніроўкі па дзве гадзіны. Гэта калі рыхтуемся паўнацэнна. І ведаеце, я ўжо не ўяўляю жыццё без фрыстайла.

**– Няўжо ніколі не было жадання кінуць гэтую справу і лепш адпачыць на канапе ці схадзіць кудынебудзь з сяброўкамі?**

– Думаю, у кожнага спартсмена бываюць пэўныя крызісныя моманты, калі ў галаву лезуць розныя нядобрыя думкі. У тым ліку – і "завязаць" са спортам. У такія моманты галоўнае – перамагчы сябе.

**– Перамога на этапе Кубка свету пакуль што самы вялікі поспех?**

– Безумоўна, на такім подыуме я яшчэ ніколі не стаяла.

**– Як ушаноўвалі пераможцу?**

– Ведаеце, у мяне пасля спаборніцтваў была такая стомленасць, што нічога не хацелася.

**– Верылі ў свой зорны час на гэтым этапе?**

– Шчыра скажу – нават і не разлічвала. Я проста старалася добра зрабіць тое, што ўмею. А далей – па абставінах. Скачок, дарэчы, у мяне быў нескладаны, з ім цяжка было разлічваць на прызавое месца. Але скокнула ўдала, а саперніцы памыліліся. Да складаных скачкоў падыходжу паступова, у мяне яшчэ ўсё наперадзе.

**– Чым займаецца пасля перамогі надзея беларускага фрыстайла?**

– Падцягваю "хвасты" ў Педуніверсітэце, дзе вучуся на факультэце фізічнага выхавання. З сябрамі сустракаюся, адпачываю, чытаю кнігі... Такі від адпачынку, як дыскатэка, не па мне.

**– Моладзь зараз любіць бавіць вольны час у сацыяльных сетках...**

– Калі ў Мінску, то імкнуся пагутарыць са знаёмымі не праз інтэрнэт. А вось на зборах сувязь падтрымліваю ўжо праз сацыяльныя сеткі. Тут я не выключэнне.

**– Якую апошнюю кнігу прачыталі?**

– "Ілюзіі" Рычарда Баха. Дарэчы, купіла яе яшчэ і на англійскай мове – паспрабую прачытаць на мове арыгінала.

**– Вы ў дасканаласці валодаеце англійскай мовай?**

– Нельга сказаць, каб дасканала, але да сёмага класа я вучылася ў школе з узмоцненым вывучэннем англійскай мовы.

**– Жыццё спартсмена – на чамаданах. Гэта для вас не праблема?**

– Наадварот – у гэтым свая прыгажосць! Я вельмі люблю падарожнічаць, таму наведванне іншых краін падчас спаборніцтваў – гэта яшчэ і цудоўная магчымасць паглядзець свет. Я, напрыклад, першы раз была ў ЗША, уражанняў хапіла. Як быццам у іншым свеце апынулася. Там жа ўсё інакш – ад архітэктуры і да менталітэта людзей. Таму, калі ёсць вольны час пасля спаборніцтваў, стараюся паглядзець як мага больш цікавага. І абавязкова набываю магніцікі на халадзільнік. Як жа без гэтага?

**– Саша, некаторыя вас называюць узыходзячай зоркай беларускага фрыстайла. Як да гэтага ставіцеся?**

– Стараюся пра гэта нават не думаць і не звяртаць увагі на розныя каментарыі. Мне абсалютна зразумела, што работы наперадзе – воз і маленькі вазок. І калі сёння займацца самалюбаваннем, то нічога добрага з гэтага не атрымаецца. Прыкладаў таму шмат, не хацелася б паўтараць чужыя памылкі.

**– Але прыхільнікаў, напэўна, дабавілася?**

– Ды неяк не заўважыла. Сябры засталіся сябрамі, а ў тых жа сацыяльных сетках з незнаёмымі я ў зносіны не ўступаю.

**– Як родныя сустрэлі дома чэмпіёнку?**

– Думаю, яны з радасцю сустрэлі б мяне і тады, калі б нічога не выйграла. Але ж перамога на тое і перамога, каб радавацца і атрымліваць падарункі! Таму торцікам паласавалася...

**Алесь СІВЫ.**

ВІДАВОЧНАЕ-НЕВЕРАГОДНАЕ

# Знахаркі і чараўніцы

***Чаму шаптуха лечыць чалавека ад "ветру"? Як адрозніць сапраўдную знахарку ад падманшчыцы? Што павінна зрабіць шаптуха перад смерцю? Якая будучыня ў шаптунства? Пра гэта "Народнай Волі" расказаў пісьменнік Віталь Воранаў, аўтар кнігі "Шэптам", прысвечанай народнай медыцыне і шаптунству беларускага Палесся і польскага Падляшша.***

**– Віталь, а вы самі верыце ў дапамогу шаптух?**

– Шаптухі дапамагалі мне з самага маленства, якое прайшло ў мястэчку Глыбокае. Калі я плакаў ці пераставаў есці, бабуля хадзіла па дапамогу да мясцовай шаптухі. Калі ў 10 гадоў захварэў на валасень, знахарка з суседняй вёскі выратавала мне ад ампутацыі палец. Цікава, што маіх бацькоў да яе накіравалі хірургі з новай гарадской бальніцы.

**– Прафесійныя дактары параілі звярнуцца да аматараў? Як гэта зразумець?**

– На ўсіх прэзентацыях кнігі да мяне падыходзілі чытачы, якія ў размове адзін на адзін прызнаваліся, што ў іхняй сям'і шаптухай была ці то маці, ці то бабуля, ці то цётка. Большасць беларусаў цудоўна арыентуецца ў самых складаных пытаннях гэтай сферы. Усё ж такі сучаснай медыцыне крыху больш за 100 гадоў, хрысціянству – толькі дзве тысячы, а продкі беларусаў, як лічаць генетыкі, з'явіліся прыкладна восем тысячагоддзяў таму. Увесь гэты час ім трэба было неяк ратавацца ад рознае немачы.



Падчас гутаркі з адной палескай шаптухай я зразумеў, што апрача шматвекавыхназіранняў за прыродай чалавека ці нейкай таемнай сілай кожная баба-знахарка валодае адным сакрэтам. Гэта ўменне слухаць і жаданне дапамагчы таму, хто шчыра звяртаецца са сваёй праблемай. Часцяком шаптуха – гэта вясковы псіхолаг, які на аснове ўласнага жыццёвага вопыту і прыроджанага дару ўмее дапамагчы ў самых розных, у тым ліку і псіхалагічных, праблемах. Цікава, што беларускія шаптухі часта распазнаюць цэлы комплекс дыягназаў, а не толькі адзін канкрэтны, як у навуковай медыцыне. Напрыклад, чалавеку абдула шыю, вуха ці спіну, і шаптуха лечыць яго ад "ветру".

Праўда, шаптунства, як і магія, дзеліцца на белае і чорнае. Шаптух, якія пераважна шкодзілі, а не дапамагалі людзям, называлі чараўніцамі. І сапраўды, вялікая колькасць замоў мела на мэце прынясенне шкоды гаспадару, скаціне, гаспадарцы ў цэлым.

**– Ці супярэчыць шаптунства хрысціянству?**

– Пытанне вельмі складанае. Па сваёй сутнасці кожная царква – таталітарная і імкнецца да выключнага права на праўду. Усе без выключэння канфесіі ставіліся да шаптунства адмоўна. Бо яго карані, безумоўна, знаходзяцца ў язычніцтве, якое куды старэйшае за хрысціянства. З часам шаптухі адаптаваліся і ўвялі ў свой "рэпертуар" некаторыя асноўныя хрысціянскія малітвы. У хатах асобных шаптух шмат ікон. Некаторыя адкрыта кажуць, што ім дапамагае Бог, а яны ў гэтым працэсе толькі з'яўляюцца пасрэднікамі. На Беласточчыне вядомы выпадак бацюшкі-шаптуна, якому царкоўныя іерархі рэкамендавалі спыніць заняткі шаптунствам. Але, наколькі мне вядома, ён працягвае прымаць хворых таемна.

**– А ў свеце шаптунства распаўсюджана?**

– На захадзе Еўропы традыцыйнае шаптунства цалкам знікла. Да гэтага моцна спрычынілася каталіцкая царква. У Польшчы адзіным рэгіёнам, дзе яшчэ засталіся шаптухі, застаецца Падляшша, дзе шчыльна пражывае беларуская праваслаўная меншасць. Але найбольшая колькасць бабак – так знахарак называюць у народзе – захавалася менавіта ў Беларусі. Найчасцей яны сустракаюцца на беларускім Палессі. У адной з вёсак на ўсходзе гэтага рэгіёна, дзе мне пашанцавала нейкі час гасцяваць, выявілася, што "шаптаць" умеюць амаль усе мясцовыя жанчыны. Раней такая з'ява была тыповай. Але разам з выміраннем беларускай вёскі знікае і мастацтва традыцыйнага шаптунства.

**– Ці лёгка мясцовыя знахаркі ішлі на кантакт?**

– Беларускі свет традыцыйна падзелены на мужчынскі і жаночы. Калі прыязджаеш у нейкую палескую вёску ў пошуку фальклору, то бачыш, што жанчыны найбольш натуральна паводзяць сябе ў асяродку жанчын, а мужчыны паралельна трымаюцца недзе збоку. Магчыма, таму шаптухі найлепш ідуць на кантакт з іншымі жанчынамі. Думаю, трэба ўлічваць і фактар бяспекі. Пусціць у хату незнаёмага мужчыну, асабліва ў далёкай вёсцы, небяспечна. Я ўлічыў гэтыя псіхалагічныя моманты і ва ўсе паездкі адпраўляўся з сяброўкамі, якія ліквідавалі гэты бар'ер і былі пасрэднікамі ва ўсіх падобных знаёмствах.

Падчас вандровак змог даведацца шмат таямніц, якія ўвайшлі ў кнігу. Напрыклад, перад смерцю шаптусе трэба абавязкова перадаць свае веды камусьці іншаму. Лічыцца, што калі яна гэтага не зробіць, то яе смерць можа быць вельмі цяжкай. У такім выпадку прабіваюць столь, каб палегчыць сыход душы. Але месцазнаходжання шаптух, якія вырашылі падзяліцца са мной сваімі сакрэтамі, я прынцыпова не раскрываў. Таямніцы цікавыя толькі да таго моманту, пакуль яны застаюцца таямніцамі.

**– А як адрозніць сапраўдную шаптуху ад падманшчыцы?**

– Сапраўдныя шаптухі не чакаюць ад хворых ніякіх грошай, бо не ўспрымаюць свой дар як працу і магчымасць прыбытку. Гэта адна з асноўных прыкмет, якая адрознівае традыцыйную знахарку ад гарадскіх варажбітак і прыезджых прайдзісветак. Традыцыйнай шаптусе прынята пакінуць гасцінец, прадукты ці зусім невялікае, сімвалічнае грашовае ахвяраванне. Лічыцца, што такім чынам хворы адасабляецца ад сваіх праблем. Але адначасова не пакідае іх самой шаптусе.

**– Мы гаворым пра беларускую з'яву. Але чаму ваша кніга выйшла на дзвюх мовах?**

– Я атрымаў творчую стыпендыю ад кіраўніцтва горада Беластока. Таму спачатку настройваў сябе, каб пісаць гэтую кніжку па-польску (так было б прасцей з пункту гледжання яе падрыхтоўкі да выдання). Але крыху пазней зразумеў, што тэма настолькі беларуская, што напісаць яе на іншай мове не змог бы. У выніку кніжка выйшла ў арыгінале і ў перакладзе Манікі Уранэк. Замовы ў польскім перакладзе мы вырашылі падаваць у беларускім арыгінале і ў транслітарацыі на лацінку, зразумелую для польскага чытача. Для асоб, неабазнаных у беларускіх рэаліях і мове, мы дадаткова падрыхтавалі ў канцы кнігі пераклад замоў на польскую мову і невялічкі слоўнік паняццяў, звязаных з тэмай шаптунства.

**– Вялікую цікавасць выклікае беларуская тэматыка ў палякаў?**

– Палякі розумам на захадзе, а сэрцам на ўсходзе. Беларусь для іх неад'емны сентымент. У адрозненне ад польска-ўкраінскіх стасункаў, у нашай гісторыі не было такіх траўм, якіх немагчыма было пераадолець. Таму Беларусь і ўсё беларускае ўспрымаюцца сярод польскай публікі амаль выключна станоўча.

**– Як вы лічыце, якая будучыня ў шаптунства?**

– Праца шаптух будзе запатрабавана ўсё больш і больш. З аднаго боку, гэта звязана са змяншэннем лічбы сапраўдных, традыцыйных шаптух. З другога боку, з унутранай патрэбай людзей, якія ўсё больш губляюцца ў сучасным свеце. Пасля першай хвалі рэлігійнасці, калі з'явілася свабода веравызнання, а вернікам вярнулі касцёлы і храмы, маладыя людзі паволі адыходзяць ад царквы. Аднак прырода не выносіць пустэчы. На гэтае месца ў грамадскім жыцці прыйдзе альбо іншае веравызнанне, альбо людзі вернуцца да сваіх самых глыбокіх каранёў.

**Гутарыў Максім ПЛОТНІКАЎ.**
**Фота Магдалены Петрук.**

ШАШКІ

# Бразільскія шашкі



У іх гульня ідзе на тых жа 64-клетачных дошках, як і ў рускіх шашках, але па правілах стоклетак, якія адрозніваюцца трыма асаблівасцямі: неабходна збіваць найбольшую колькасць фігур; калі шашка трапіла на апошнюю гарызанталь і можа прадоўжыць ударны ход як простая, яна па-ранейшаму застаецца ёю, а калі ж такая магчымасць адсутнічае з-за свабоднага перадамачнага поля пасля ўдару, шашка ператвараецца ў дамку, але яе правы набывае праз ход.

У апошні час папулярнасць бразільскіх шашак расце. Прыводзім па іх новыя пазіцыі з творчасці беларускіх майстроў:

Віктар Шульга: №1. **Белыя**: a1, b4, d4, e5, f2, h2 (6). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, g5 (5). Развязка: 1. e5-f6 c3:g7 (знішчэнне найбольшай колькасці фігур – 1-я асаблівасць) 2. a1:e1 a5:c3 3. c1-d2 c3:g3 (c3 засталася простай – 2-я асаблівасць) 4. h2:f8x.

Віталь Варушыла: №2. **Белыя**: b4, b6, c3, c5, d2, e3, f2, h2 (8). **Чорныя**: a5, a7, c7, d8, e7, f4, g5, g7 (8). 1.c3-d4 a5:g3 (1-я і 2-я асаблівасці) 2. d4-e5 f4:c5 (зноў узяцце большасці шашак) 3. h2:b8 (толькі цяпер h2 стала дамкай) a7:c5 4. b8-a7 d8-c7 5. a7:d4 c7-b6 6. d4:a7 b4-c3 7. e3-d4x.

Мікалай Грушэўскі: №3. **Белыя**: a5, d4, e5, f4, g1, дамка h2 (6). **Чорныя**: a7, c7, d2, d6, f6, g3, h4, дамка g7 (8). B6 (g5 – 1-я асаблівасць) e1, g3, c5x.

№4. **Белыя**: a1, d2, e5, f4, h2 (5). **Чорныя**: a3, c5, f6, g3, g7 (5). B2! (a:g5 – 1-я і 2-я асаблівасці) f8 – дамка з наступнага ходу – 3-я асаблівасць (f:d4) b4 (e3) e1x.

№5. **Белыя**: b6, d2, d4, e5, f4, h2 (6). **Чорныя**: a7, b4, f6, g3, g7 (5). C3! (a:g5 – 1-я асаблівасць) h:f8 – 1-я і 3-я асаблівасці (f:b2 – абавязковае збіванне большасці фігур – у трэці раз у адной камбінацыі!) f:c1x.

№6. **Белыя**: b2, c1, c3, e5, f4, h2 (6). **Чорныя**: a3, c5, f6, g3, g7, h4 (6). Дэманстраванне ўсіх трох асаблівасцяў. Пераканайцеся ў гэтым самастойна. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

Па бразільскіх шашках праводзяцца і планетарныя першынствы. Прыемна адзначыць, што ў адным з іх святкаваў перамогу міжнародны гросмайстар з Мінска Андрэй Валюк, двойчы чэмпіён свету па рускай версіі старадаўняй гульні.

## *Праверце рашэнні*

**"Міжнародны конкурс"** (П.Шклудаў): **№1** – D(d4) h6 (g7) f8 (c3) f6 (d2) c3, a3+. E(cb4) h6 (a3) f6 (e7) b6, g7+. F(d6) h6 (e5) f4, a7 (b4/e7L) d4+. G (e3) d6, f8+. H(d2) d6, c1+. J(h6) d6, d2+. K(f6) g5+. L(g7) d4 (h6) c3 (g5) d2 (h4) e1+.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ПО ПОВОДУ

# Давайте вспомним и задумаемся...



Конькобежный спорт – один из старейших видов спорта. Так, Международный союз конькобежцев был основан еще в 1892 году и в настоящее время объединяет более 80 национальных федераций.

В программу зимних Олимпийских игр скоростной бег на коньках у мужчин был включен в 1924 году, а с 1960 года в борьбу включились и женщины.

В Беларуси скоростной бег на коньках долгое время оставался одним из приоритетных и культивировался в ряде спортивных обществ, в том числе и в «Динамо». В нем под руководством тренеров супругов Большаковых был подготовлен белорусский спортсмен Эдуард Матусевич, который неоднократно становился чемпионом Европы и призером чемпионата мира. Но, к сожалению, ныне конькобежный спорт не культивируется...

А ведь успехи в начале девяностых Игоря Железовского, остающегося самым титулованным белорусским конькобежцем, а затем и Анжелики Котюги поддерживали высокий интерес к этому виду спорта, который должен быть в нашей стране и сегодня.

Первый тревожный звонок прозвучал еще в начале прошлого века. Основные конкуренты ушли далеко вперед, а мы по ряду причин продолжали топтаться на месте.

Конечно, отрицательно сказывалось отсутствие у нас современной базы и тренеров высокого международного уровня. Бытует мнение, что хороший спортсмен может стать и хорошим тренером, а ведь это далеко не так.

Видимо, по этим и другим причинам, наши конькобежцы не пробились на Олимпиаду в Сочи.

Сегодня нужно признать, что крытый стандартный каток на «Минск-Арене» есть. В ближайшее время на нем будет проводиться чемпионат Европы, но главное, чтобы он стал настоящим домом для любителей коньков всех возрастов. Чтобы были открыты на этой базе специализированные детские спортивные школы, чтобы детские тренеры получали достойную зарплату.

В любом случае, несмотря на еще имеющиеся трудности, у нас в Беларуси нужно и можно решить все проблемы отечественного конькобежного спорта, если не поворачиваться к ним спиной.

Безусловно, всех волнует, что нас ждет на очередной зимней Олимпиаде? Думаю, нам вряд ли удастся увидеть наших конькобежцев на пьедестале. Над этим стоит серьезно задуматься. И время не ждет.

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

ДА ВЕДАМА!

# Заява Сакратарыята ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»

*з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы*

Дарагія сябры!

21 лютага міжнародная супольнасць штогод адзначае Дзень роднай мовы. Мы звяртаемся да ўсіх грамадзян Беларусі, а таксама прыхільнікаў беларушчыны за мяжой з просьбай выказаць у гэты дзень сваю падтрымку жывому беларускаму слову. Давайце ў гэты дзень публічна праявім сваё шанаванне да старажытнай, тысячагадовай беларускай мовы, дзяржаўнай мовы Вялікага Княства Літоўскага, мовы трох Статутаў ВКЛ, мовы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава.

Мы заклікаем Вас прыняць удзел у VIII Усебеларускай дыктоўцы, якую мы прапануем пісаць па творах Францішка Багушэвіча, Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна.

Узоры дыктовак чытайце ў газеце "Наша слова", а таксама на нашым партале: tbm-mova.by

Любіце родную мову – яна дасканалая і прыгожая!

**Прынята на пасяджэнні Сакратарыята ТБМ 5 лютага 2015 года.**

СІТУАЦЫЯ

# Такі хакей нам не патрэбны?

***Бацькі дзяцей, якія займаюцца хакеем у спецыялізаванай школе Наваполацка, забілі трывогу: маўляў, школу могуць закрыць! Ці так гэта?***

Пакуль аматары мінскага "Дынама" пляскаюць у далоні поспехам прафесійнай каманды, бацькі навучэнцаў Наваполацкай СДЮШАР падалі сігнал SOS.

*"З-за сур'ёзных фінансавых праблем знакамітая Наваполацкая дзіцячая школа хакея знаходзіцца на мяжы закрыцця,* – паведаміла ў сацыяльных сетках "Група Наваполацка". – *Раней стала вядома аб цяжкім фінансавым стане дарослай каманды Наваполацка "Хімік-СКА", якую пакінулі практычна ўсе асноўныя ігракі. Фінансавыя праблемы дайшлі і да дзіцячай школы. Яна здымаецца з чэмпіянату Беларусі, а гэта каля 250 дзяцей розных узростаў. Грошай няма не тое што на выязныя матчы, але і на дамашнія (бо работу суддзяў таксама трэба аплачваць). Фінансаванне горадам зменшылася. Гэта пры тым, што купля формы, клюшак, канькоў і іншага заўсёды ажыццяўлялася бацькамі, якія зараз чакаюць рэакцыі гарадскіх улад на сітуацыю, што склалася. Нагадаем, выхаванцамі Наваполацкай СДЮШАР з'яўляюцца такія вядомыя хакеісты, як браты Касціцыны, Уладзімір Дзянісаў, Дзмітрый Корабаў, Аляксандр Кітараў і іншыя".*



Крытычная рэакцыя балельшчыкаў на форумах была прадказальная:

*"Галоўнае, каб не забылі яшчэ пяць-дзесяць лядовых палацаў пабудаваць, а дзеці і на вуліцы не прападуць".*

*"Баба з возу – кабыле лягчэй! Больш грошай застанецца беларускім хакейным дармаедам".*

*"А пасля нашы кіраўнікі скардзяцца на вынік, хоць 20 гадоў кажуць, што трэба ўзнімаць дзіцячы спорт. А воз на месцы. Пустая балбатня ў кабінетах працягваецца. Замест нікому не патрэбных аматарскіх турніраў лепш бы грошы ўкладвалі ў сапраўдную справу на перспектыву".*

Пракаментаваць сітуацыю "Народная Воля" папрасіла выконваючага абавязкі дырэктара СДЮШАР г.Наваполацка **Аляксея ГАЛАВАЧА.**

– Тая інфармацыя, што была змешчана ў інтэрнэце, мякка будзе сказана, не зусім праўдзівая, – распавядае Аляксей Уладзіміравіч. – На сённяшні дзень школа не збіраецца закрывацца, яна функцыянуе, дзеці трэніруюцца, а трэнеры своечасова атрымліваюць заробкі. Праўда, з'явіліся невялікія пытанні з нагоды перамяшчэння грошай на спартыўныя мерапрыемствы з трэцяга квартала на першы – вось і ўся праблема. Самі ведаеце, што ва ўсёй краіне няпростая фінансавая сітуацыя. Тым не менш пытанне вырашылася. У мінулыя выхадныя ўсе паездкі і гульні прайшлі ў запланаваным парадку. Магчыма, калі бацькі даведаліся пра нашы невялікія праблемы, то не разабраліся і адразу ж паднялі гвалт. Так бы мовіць, прынялі прэвентыўныя меры. У нас складанасці з фінансаваннем узнікаюць кожны год, але, паўтаруся, школа жыве і будзе жыць далей.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела:**
**(017) 3286609,3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15011

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,** **632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 09.02.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 460 экз. Заказ №512.**